# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 5 (1603) ГОД XXXII БЕЛАСТОК, 1 ЛЮТАГА 1987 г. ЦАНА 10 зл.




Фота Л. Тарасэвіча

## Аб моладзі — шырэй

Апошні пленум Галоўнага праўлення БГКТ, які быў прысвечаны працы з моладдзю, пакінуў ува мне нейкую недаінфармаванасць — незалежна ад добрай яго падрыхтоўкі і творчай дыскусіі. Усё на ім неяк нацэльвалася на такія формы дзейнасці, якія адпавядаюць студэнцкім або вялікагарадскім асяроддзям. Вельмі мала гаварылася аб працы з усёй моладдзю, асабліва з пражываючай у вёсках. Не было, здаецца, ніводнага члена ГП, які не разумеў патрэбы працы з той часткай моладзі, на якую найбольш уздзейнічаюць усе — і дадатнія і адмоўныя плыні сучаснасці. Тысячы маладых людзей, якія жывуць у гарадах, шукаюць карысных для сябе кантактаў, прыемнага адпачынку пасля працы ці вучобы, і вельмі добра, што яны так рашуча дамагаюцца ад БГКТ больш мэтанакіраванай дзейнасці. Я за тым, каб шырэй і як найхутчэй выйсці насустрач яе пажаданням. Зараз моладзь засяроджваецца ў гарадах, бо тут найбольшыя магчымасці працы.

Астаецца, аднак, частка моладзі, якая працуе ў вёсках і невялікіх гарадах. Яна таксама не менш важная, а праца з ёю можа нават больш удзячная. Бяда ў тым, што ў вёсках асталося маладых людзей вельмі мала, і штучна адрываць іх ад астатняй часткі насельніцтва няма ніякай патрэбы. Суадносіны ліку моладзі да ўсяго насельніцтва зараз у бліжэйшай перспектыве можна акрэсліць на падставе апошніх статыстычных гадавікоў Галоўнага і Ваяводскага статыстычных управаў (Rocznik Statystyczny Województwa Białostockiego 1986, WUS w Białymstoku).

З дадзеных вынікае, што ў канцы 1986 года з агульнага ліку 671,6 тысячы жыхароў Беластоцкага ваяводства 58,5 прац. пражывала ў гарадах, а 41,5 прац. — у вёсках. У гэтых паказчыках мы блізкія яшчэ да агульнадзяржаўных.

Далей у дэмаграфіі ваяводства і краіны відавочны значныя разыходжанні не ў нашу карысць. Лік моладзі ў вёсках ва ўзросце ад 15 да 29 год вельмі малы і складаў каля 18 прац. усяго вясковага насельніцтва Беластоцкага ваяводства — у параўнанні з 25 прац. такога ж насельніцтва ва ўсёй краіне (у гарадах адпаведна — 25 прац. і 23 прац.). Але ў беларускіх асяроддзях ён проста катастрафічны — усяго каля 10 прац! У сярэдняй велічыні вёсцы можа быць 5—10 чалавек моладзі ў розным узросце. Гэта надта ўскладняе працу БГКТ, і трэба сапраўды вышукваць універсальныя формы дзейнасці, каб прыцягнуць яе нават да існуючага клуба. Можа, больш карысна будзе развіваць дзейнасць у гмінных асяродках культуры, пры аддзелах Таварыства. Тут яшчэ ёсць маладыя працаўнікі гандлю, асветы, дробных вытворчых прадпрыемстваў, адміністрацыі. Яны могуць скласці асноўную базу дзейнасці, да якой з часам пачне далучацца моладзь з навакольных вёсак.

Трэба таксама лічыцца з тым, што лік моладзі ў гэтых асяроддзях будзе сістэматычна змяншацца з увагі на вельмі малы натуральны прырост насельніцтва, празмерна вялікую міграцыю ў гарады, асабліва дзяўчат.

У пяцідзесятых гадах на 1000 вясковых жыхароў тагачасных Беластоцкага, Бельскага і Сакольскага паветаў натуральны прырост складаў 13—15 чалавек у год, у шасцідзесятых гадах — ужо 7—11 чалавек, у сямідзесятых гадах — спачатку 4—7 чалавек, а пасля пачаўся перыяд без аніякага прыросту. У канцы 1985 года амаль ва ўсіх паўднёва-ўсходніх гмінах ён быў адмоўны, у тым ліку ў гміне Чыжы — звыш мінус 7 чалавек, у Дубічах Царкоўных, Орлі, Бельску-Падляшскім — на каля мінус 6 чалавек у год. У цэлым па ваяводству ён яшчэ складаў 2 праміл, гэта значыць 2 чалавекі, а ў краіне — 9 праміляў. У гарадах натуральны прырост

(Працяг на стар. 5)

## З рэпарцёрскіх запісак

## Старасці патрэбны спакой

Халодны вецер бічаваў твары рабочых, макраваты снег заклейваў вочы, дубянелі рукі, а ў маім даўгапісе замярзала туш. Яны, аднак, не спынялі працы, не ўцякалі пад цёплы і сухі дах. Адны з іх мацаваліся з драцяной сеткавай агарожай, каб яе парадачна нацягнуць, а іншыя рыхтаваліся да ўстанаўленняаграмаднага і высачэзнага коміна з адрэзкаў жалезных труб, а яшчэ іншыя, нягледзячы на начныя, даволі вострыя прымаразкі, вылівалі чарговае скляпенне мураванага будынка. „Нічога, мы забяспечым свежы бетон ад марозу саламяным насцілам!“ — супакоілі мяне, каб я не падумаў, што гэтыя рабочыя партачаць сваю працу. Адным словам, праца ішла дружна і зладжана, як бы наперакор закаранеламу ўжо ўяўленню аб цяперашніх будаўніках, якія, быццам бы, ідуць на будову, каб адпачыць і півам пачаставацца.

Гэтых будаўнікоў пад канец снежня мінулага года застаў я на пабудове **Вясковага дома рэнцістаў** у Чарэўках, куды папрасіў мяне **Збігнеў Ліпскі** — старшыня **Ваяводскага праўлення Ваяводскага саюза сялян, сельскагаспадарчых гурткоў і сялянскіх арганізацый.** Суправаджаў мяне ў гэтай паездцы загадчык аддзела па капіталаўкладаннях гэтага ж Саюза — інжынер **Мікалай Андраюк,** шчыры прыхільнік „Нівы“. Аказалася, што ў папярэдні дзень на гэтай пабудове рабілі здымкі для тэлебачання, круціўся там таксама фотарэпарцёр з „Газеты Вспулчэснай“. І тады адзін з рабочых, брыгадзір Міхаіл Налівайка, сказаў уголас: „Шкада, што няма нікога з „Нівы“!

— Каб напісалі ў „Ніве“, дык і мой бацька прачытаў бы! — заявіў ён.

Яго бацька, **Аляксей Налівайка,** жыве ў Скрабляках, дзе і Міхаська таксама пабачыў свет божы. Гэта ў гміне Гарадок, каля шашы ў Баброўнікі, там, дзе беластачане масава ездзяць у грыбы. У гэтым кутку нашай роднай Беласточчыны мясцовая беларуская гаворка вельмі ж

(Працяг на стар. 4)

 




## АБ БОЛІ

Колькі ж разоў чуем ад людзей, якія адчуваюць такі ці іншы боль, словы: „Ах, каб ён прапаў", „Калі нарэшце прападзе гэты праклятаы боль", „Няхай гэты боль згарыць без следу". Як не дзіўна, але такія перакананні і праклёны пазбаўлены ўсякага сэнсу. Чаму? Таму, што боль з'яўляецца не ворагам, а найбольшым прыяцелем чалавека. Мы схільны боль атаясамліваць з хваробай, а тым часам боль з'яўляецца найбольшым здраднікам усякай хваробы і верным сябрам чалавека.

Сучасныя аўтамашыны маюць цэлы рад лямпачак. Гэтыя лямпачкі не ўключаюцца так доўга, як доўга механізм машыны „здаровы". Калі толькі нешта ў машыне сапсуецца, загараецца лямпачка. Значыць, трэба машыну рамантаваць. Параўнаўча нядаўна ў маёй машыне загарэлася такая лямпачка, якая не гарэла на працягу васьмі гадоў. Аказалася, што гэта лямпачка была звязана з тармазной вадкасцю, якая ў мяне амаль скончылася. Калі я заліў у бачок вадкасць, лямпачка адразу згасла. Калі б не лямпачка, я надалей ездзіў бы і, бадай, усё гэта закончылася б катастрофай. Я быў адзін раз сведкам выпадку, калі скончылася вадкасць і машына бескантрольна паляцела з гары ў даліну. Чаму прыводжу гэтыя прыклады? Таму, што боль у нашым арганізме — гэта тое самае, што ў машыне лямпачкі. Боль інфармуе нас аб тым, што нешта ў нашым арганізме сапсавалася. І калі б не боль — сігнал, дык чалавек, захварэўшы, не ведаў бы, што ён хворы, не лячыўся б і вельмі хутка набліжаўся б да смерці. І скажам, такі ж боль-сябра інфармуе нас аб небяспецы, калі надзенем цесныя боты. Калі б не гэты боль-інфарматар, мы б абцёрлі цеснымі ботамі скуру да косці, не ведаючы аб гэтым.

На жаль, у разважаным аспекце чалавечы арганізм менш дасканалы, чым механізм машыны. Справа ў тым, што сігнальныя лямпачкі ў машыне беспамылкова паказваюць месца, у якім наступае аварыя. Тармазы, ціск масла, тэмпература. На жаль, боль не такі адназначны. Здараецца так, што боль, які, здавалася б, сведчыць, скажам, аб хваробе пячонкі, сігналізуе хваробу зусім іншага нашага органа. Часта такі сігнал ашукоўвае нават лекараў, якія лечаць орган цалкам здаровы, а абмінаюць хворы. Часта такія выпадкі маюць трагічны фінал, бо канчаюцца смерцю хворага. Аднак гэта ўжо сведчыць не аб віне болю-сігналу, а аб недасканаласці медыцыны, якая мае яшчэ не мала белых плям і не можа ўласціва прачытаць сігналаў, якія падае наш арганізм.

Я ведаю, што пасля прачытання майго артыкула хворыя не пачнуць любіць боль. Ды і не такая мэта маёй публікацыі. Справа толькі ў тым, каб мы ўласціва пачалі боль інтэрпрэтаваць, каб бачылі ў ім геніяльнасць арганізму, які вышэйшая сіла ці прырода забяспечыла так прадуманай і добрай сігнальнай сістэмай. Ведаючы аб гэтым, трактуйма боль не як ворага, а як прыяцеля, які напамінае нам: чалавеча, ты хворы. Не войкай, а ідзі да лекара! Я вораг тваёй хваробы і інфармую цябе аб тым, што яна атакуе твой арганізм. Вылеч хваробу, а я адразу згашу сваю лямпачку!

**Алесь Барскі**




## КРЫТЫКА ДЗЯРЖАГРАПРОМА

Бюро ЦК КПБ крытычна ацаніла работу Дзяржаграпрома БССР па ўдасканаленню кіравання аграпрамысловым комплексам рэспублікі. Адзначана, што ў галіне не поўнасцю забяспечваецца рэалізацыя мер, прадугледжаных рашэннямі партыі і ўрада. Марудна вырашаюцца асноўныя праблемы, звязаныя з выкананнем Харчовай праграмы, паскарэннем навукова-тэхнічнага прагрэсу. Недастаткова эфектыўна выкарыстоўваюцца землі, асноўныя фонды, працоўныя, матэрыяльныя і фінансавыя рэсурсы. Не да канца ліквідавана ведамасная разрозненасць увайшоўшых у састаў аграпрамысловага комплексу падраздзяленняў, слаба вядзецца работа па павышэнню іх зацікаўленасці ў дасягненні максімальнага выхаду канчатковага прадукту. Не адбылося карэннай перабудовы ў стылі і метадах дзейнасці апарату Дзяржаграпрома БССР, аблаграпромаў і раённых аграпрамысловых аб'яднанняў. Маюць месца недахопы ў навучанні кадраў інтэнсіўным тэхналогіям, эканамічным метадам гаспадарання.

## НОВЫЯ МІНІСТРЫ

24 снежня м.г. Вярхоўны Савет Беларускай ССР назначыў новага міністра аховы здароўя рэспублікі. З'яўляецца ім Уладзімір Улашчык, 1943 года нараджэння, беларус, член КПСС з 1976 года, доктар медыцынскіх навук, прафесар. З 1983 года працаваў намеснікам міністра аховы здароўя БССР.

25 снежня м.г. быў назначаны новы міністр юстыцыі БССР. З'яўляецца ім Уладзімір Каравай, 1936 года нараджэння, беларус, член КПСС з 1959 года, адукацыя вышэйшая, юрыдычная. З 1978 года працаваў старшынёй Гомельскага абласнога суда.

## ЗЯЛЁНАЯ ЗОНА МІНСКА

Камісія па ахове прыроды і рацыянальным выкарыстанні прыродных рэсурсаў Вярхоўнага Савета БССР разгледзела ход выканання рашэння камісіі „Аб стане аховы і выкарыстання лясоў зялёнай зоны горада Мінска". Адзначана, што для арганізацыі лесапаркавай гаспадаркі гарвыканкому дадаткова перададзена звыш 19,5 тысячы гэктараў лясоў. Аднак стан лясоў зялёнай зоны не адпавядае прад'яўляемым патрабаванням. Многія ўчасткі, прызначаныя для гарадскога адпачынку мінчан, засмечаны бытавымі, прамысловымі і будаўнічымі адыходамі. Прыніжана патрабавальнасць кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый горада за выкананне прыродаахоўнага заканадаўства, слаба вядзецца выхаваўчая работа сярод насельніцтва.

## КНІГА ПРА ПАДПОЛЛЕ

У выдавецтве „Беларусь" выйшла кніга „Партыйнае падполле ў Беларусі, 1941—1944", у якой расказваецца аб барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі на тэрыторыі Вілейскай, Баранавіцкай, Пінскай, Брэсцкай і Беластоцкай абласцей. Гэта — трэці, заключны том з серыі зборнікаў успамінаў кіраўнікоў падпольных партыйных органаў Беларусі, падрыхтаваны Інстытутам гісторыі Акадэміі навук БССР і Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КПБ.

## НЕЗВЫЧАЙНЫ ПРАКТЫКАНТ

На адным з участкаў Гомельскага шклозавода з'явіўся нядаўна дасведны ўзор аўтаматычнага маніпулятара, прызначанага для работы з вітрынным шклом. „Практыкант" на дзіва спрытна і асцярожна здымае лісты шкла са стала нарэзкі, пераносіць і ўкладае іх у тарныя скрынкі.

Распрацавалі навінку ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце арганізацыі і кіравання будаўніцтвам Дзяржбуда БССР.

## НА СУСТРЭЧУ ВЯСНЫ

Добра сустрэць будучую вясну — такую магчымасць забяспечыў дачнікам калектыў Магілёўскага завода сантэхзагатовак. Тут пачаўся выпуск цэлай серыі навінак, якія дапамогуць лепш добраўпарадкаваць жыллё, аблегчыць догляд саду і агарода. Гэта прыстасаванні для палівання, поліэтыленавыя жолабы сцёку дажджавых вод, загараджальная сетка, іншыя патрэбныя ў дачнай гаспадарцы прадметы. На выраб тавараў шырспажыву ў асноўным ідуць адыходы вытворчасці.

## „БЕЛАРУСКАЯ БАЙКА"

Выйшаў у свет вялікі зборнік беларускай байкі. У першым раздзеле „Беларуская дарэвалюцыйная байка" змешчаны творы Ф. Багушэвіча, А. Абуховіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, А. Дзеркача. У другім раздзеле — сучасныя аўтары — К. Крапіва, У. Корбан, Э. Валасевіч, М. Скрыпка, М. Танк, А. Звонак, Ул. Караткевіч, Н. Гілевіч, А. Вярцінскі, Р. Барадулін, А. Грачанікаў, У. Паўлаў і інш. Шырока прадстаўлены ў зборніку і маладыя паэты.

Трэці раздзел склалі байкі-пароды.

Прадмова Кандрата Крапівы, укладанне Эдуарда Валасевіча, ілюстрацыі Міколы Байрачнага.

Кнігу выдала „Мастацкая літаратура".




## ЯКОЕ АДРАДЖЭННЕ?

Трагедыя працоўных суднабудаўнічай кампаніі „Нармед" усхвалявала грамадскасць Францыі. Некалькі месяцаў назад гэта буйнейшая французская суднабудаўнічая фірма, якой належаць верфі ў Дзюнкерку, Ла Сьота і Ла Сене, была аб'яўлена банкрутам. Тысячы рабочых і служачых сталі беспрацоўнымі.

Гэта толькі адзін з прыкладаў таго, як ажыццяўляецца абвешчаная ўрадам Ж. Шырака праграма „забеспячэння занятасці і эканамічнага адраджэння краіны". Масавае беспрацоўе становіцца невылечнай сацыяльнай язвай французскага грамадства. Звыш 2,5 мільёна чалавек, або звыш 10 працэнтаў актыўнага насельніцтва, сёння не маюць работы. Гэта ўжо рэкордныя лічбы, але не канчатковыя.

Таму напал класавай барацьбы ў Францыі не зніжаецца. Толькі за апошнія месяцы па ўсёй краіне пракацілася магутная хваля выступленняў супраць антынароднай палітыкі ўрада — рабочых, служачых, дэмакратычна настроенай інтэлігенцыі.

Працоўныя суднабудаўнічай кампаніі „Нармед" рашуча выступілі супраць ліквідацыі суднабудаўнічых верфяў, у абарону свайго права на працу, іх падтрымалі работнікі ўсіх галін прамысловасці, якія пратэстуюць супраць урадавага плана дэмантажу „нерэнтабельных" прадпрыемстваў, супраць масавых звальненняў, замарожвання заработнай платы, рэпрэсій і насілля з боку ўлад.

Серыю забастовак правялі работнікі чыгуначнага транспарту, у якіх прыняло ўдзел да 70 працэнтаў персаналу чыгунак.

Бескампрамісную барацьбу вядуць і аўтамабілебудаўнікі. Справа дайшла да жорсткіх сутычак з паліцыяй. Якое тут адраджэнне, мсье Шырак?

**Г.Х.**



Мал. Георгія Анастасава (Балгарыя).



 

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 332

# Іштван Дабі

### ВЕРА

Верыць
у сябе
ў апрацоўчую сілу розуму
ў разважнасць
кіруючую жыццём
ды сужыццём розных народаў і рас
Зямлі падаючай у прорву самазнішчэння
і верыць
што з гэтай планеты
асуджанай уласнымі дзецьмі на смерць
саскочыць
Волат
каб затрымаць гэты шар
які коціцца ўніз
на хвіліну трываючую тысячагоддз

### РАЗВАЖАННІ АБ ЛЮБАСЦІ І ЖЫЦЦІ

I.

кахаліся
ад першага погляда
да першага пацалунка
з пахам нікаціну і гарэлкі
ды цяпер мінаюцца здалёк
уздоўж супрацьлеглых сцен пакоя

II.

спадабаліся адно другому
але ў першых праменнях
ранішняга сонца
пазіралі з агідай
на бясформенныя целы
вылушчаныя з раскошных каралеўскіх адзенняў
ды доўгія дзесяцігоддзі
сядзелі нібы васковыя лялькі
на тронах перад падданымі
што захапляліся імі

III.

з неахвотай нарадзіла
дзіця сплоджанае каханкам
у страху перад раптоўным
састарэннем
а цяпер зайздросна захапляецца
цяжарнай дачкой атуленай
матчынай любасцю

IV.

народжанай з нянавісці любасцю
звязаныя на дзесяцігоддзі
седзячы на лаўцы пакрытай кветкамі
да іх падобных
зморшчаных дрэў
плануюць сабе
пасмяротнае падарожжа

### ЧАЛАВЕЦТВА

не было
ўзнікла
з чаго
адкуль
і чаму

цяпер ёсць
хаця няпэўнае
і як доўга
і навошта
ды ці будзе
вечна
ці загіне
без следу

можа быць калі-небудзь
ўзнікне
зноў
але чаму
і навошта

каб знікаць
і ўзнікаць
увесь час
без пачатку
і без канца?...



Мал. Міколы Давідзюка

*Марыё Бетанкурту*

пад сонцам белым
вострава гарачага
сэрца якога
б'е ўсё званчэй
там-там глухі
зняволенага афрыканца
у рытмах бёдраў
адзываецца

ружовай кветкай
вусны Крысі
што дзед яе
прынёс з Палесся
празрыстай хваляй
яе сэрца

і слова загучыць
як стук калёс
як пошум крылляў
жураўліных
— дзе Беласток
дзе Лодзь
і дзе Гавана

і снег засыпле табе вочы
казачнай думай
і славянскім сумам

**Міра Лукша**

* * *

як смерць гляджу
ў твае вочы прагна
мой белы твар
спачывае на плячы тваім
ідзе доўгая размова
лічу дні...
— далёка да жніва

* * *

свежай ніткай памяці
іголкай існавання калючай
шыю жыццё з ветраў пахучых
вясёлкавых праменняў надзеі
маю я
душу
цела

**Яніна Шостак**

* * *

Дазволь на хвіліну забыцца,
Што ўжо восень стаіць ля варот.
І няхай ў галаве закружыцца
Ад нясмелых, нямодных пяшчот.

Няхай разам сплятаюцца рукі
І шуршыць пад нагамі лісцё —
Маўчанне маё ёсць парукай,
Што з табою пайду праз жыццё.

Восень хутка стране пазалоту,
Прыйдуць мглістыя, шэрыя дні
І паселіцца ў сэрцы журбота —
Ты тады гэты дзень спамяні.

**А. Анішэўская**

# Юрка Баена

### ЖЫЦЦЁ І НАДЗЕЯ

Такое ўжо наша жыццё:
Уцякае з кожным подыхам
ветру,
Быццам сон пералётнай птушкі.

Мы, як на мяжы,
Жывем між вопытам мінулага
І надзеяй будучыні.

Надзея ў тым дубе,
Што пасадзіў я вясной ля
дарогі —
Можа, дасць адпор бурам...

Надзея ў кароткіх радках
У шэрым камені вырытых, —
Можа праіснуюць векі...

Надзея ў тых словах,
Кірыліцай на паперы
напісаных,
Заўжды хай жывуць у народзе
І ў яго бібліятэках!

### МАЛЮНАК З ДЗЯЦІНСТВА

Гэта наш дом.
У доме мама. Цёпла. Ціха.
Акно.
На падаконніку, як сонца
чырванее герань.

А за акном снягі,
на дрэвах іней
і гурбы ля парога.
І толькі ў свет бяжыць,
бяжыць, бяжыць
схрыстая
дарога...

### ЛАД

Душэўны лад —
як збан,
напоўнены світаннем,
шматколерны,
крыштальны.

А ты —
хто тады?
Можа, той коннік,
што плыве ў даліну
з подыхам прадвесня,
як шчыры друг
або як горны вецер?

# Афарызмы

*

Толькі няпэўная любоў звязана з зайздрасцю.

*

Боль, хоць і непрыемны для чалавека, з'яўляецца яго прыяцелем.

*

Кожны, хто гаворыць аб вышэйшасці сваёй веры, мовы ці народа, з'яўляецца сейбітам неспакою і нязгоды.

**Рышард Бутайла**

## НАША ПОШТА

### ДАРАГАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Пішу табе першы раз, хаця і даўно прыбіралася, але ўсё не хапала адвагі. А пішу з патрэбы сэрца. Бо што ні казаць, але „Ніва“ — гэта першы і найлепшы прыяцель беларусаў. У ёй можам прачытаць і даведацца пра сваіх — такіх самых, як і мае блізкія — простых і адукаваных, але беларусах.

Хачу вам прызнацца, што „Ніва“ — гэта маё першае лякарства. Калі мне сумна і цяжка на сэрцы, я заўсёды працягваю руку па „Ніву“. У ёй — і гумар, і сардэчныя тайны, і многа іншага цікавага. Артыкулы часта датычаць нашай гміны, а нават нашай мясцовасці. І тут хачу выказаць вялікую падзяку ўсім працаўнікам і выдаўцам „Нівы“, між іншым, А. Баршчэўскаму, Віктару Рудчыку, Мікалаю Гайдуку і іншым журналістам і карэспандэнтам.

Я сама паходжу з Чыжоўскай гміны. Тут я навучылася гаварыць і пісаць па-беларуску. У сярэдняй школе ў мяне не было беларускай мовы. Я здала на пяцёркі матуру, выйшла замуж. Цяпер я жыву ў горадзе, але я не забыла і ніколі не забуду свае роднай беларускай мовы. Свайго сыночка таксама вучу гаварыць па-беларуску, гэтак жа, як мы з мужам размаўляем.

Чытаючы кожны тыдзень свежы нумар „Нівы“, я з радасцю заўважаю, што цяпер усё часцей арганізуюцца розныя імпрэзы, якія папулярызуюць беларускую мову і беларускі фальклор сярод моладзі. Напрыклад, канцэрты „Дубіноў“, „Васілёчкаў“, калектываў з Курашава, Рыбалаў і іншых — у Беластоку. На гэтыя выступленні заўсёды прыходзяць натоўпы людзей, якія хочуць паслухаць песні на роднай мове. Або студэнцкія „Атрасіны '86“ у Беластоку. Гэта вельмі цешыць. Таксама вялікае значэнне для беларускай культуры мае беларуская перадача кожную суботу па Беластоцкім радыё. Шкада толькі, што яна ідзе ўсяго 30 мінут. Яе таксама слухае шмат беларусаў, а самае важнае, што слухаюць яе маладыя людзі і што ў такім клімаце ўзрастае і выхоўваецца моладзь.

Што ж, пісаць ёсць аб чым. Але колькі б я не пісала, не здолела б выказаць усяго таго, што адчувае маё маладое сэрца.

Жадаю вам моцнага здароўя і шчасця ў новым, 1987 годзе.

**Чытачка з Бельска**



**Частка танцавальнай дубінскай групы ў адной з фігур „Беларускага карагода“. З акардэонам Пётр Скепка.**

## „ДУБІНЫ“ ТАНЦУЮЦЬ!

Непаседлівы, творчы дух (за што слава яму ў народзе) Пётр Скепка парадаваў нас новай ініцыятывай, аб якой першыя спяшаемся расказаць усім любіцелям калектыву „Дубіны“. У марозны дзень перад праваслаўным калядным вечарам, прабіваючыся праз горбы снегу, па слізкіх дарогах, мы прыехалі ў святліцу ў Дубіны, дзе а пятай гадзіне пасля поўдня адбывалася першая рэпетыцыя танцавальнай групы, новаарганізаванай у вакальным калектыве „Дубіны“. Па кніжцы „Беларускія народныя танцы“ група вывучала „Беларускі карагод“, а дакладна першыя крокі гэтага плаўнага танца.

У групе дзесяць дзяўчат і двух хлопцаў. Вось яны ўсе: Дарота Гіншт, Эля Гіншт, Аня Вашчэнка, Гражына Грэчан, Аня Аверчук, Іра Нікіцюк, Іра Садоўская, Кася Скепка, Івона Давідзюк, Ганя Кічкайла, Юрка Баравік, Андрэй Секан. Людзі гэтыя развучваюць цяпер танец, але ўвогуле яны і спяваюць. Пастаноўка танцаў, якая пачалася ў Дубінах, гэта нялёгкая праца. І хоць мы ўжо крыху прызвычаіліся да размаху „Дубіноў“ і іхняга кіраўніка, хочацца шчыра пажадаць, каб і гэтую вялікую задуму яны з уласцівай сабе ўпартасцю поўнасцю рэалізавалі.

Сярод танцуючых — дзяўчаты з Гайнаўкі, Арэшкава, Трывежы і, зразумела, Дубін. Большасць — вучні Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. (вл)

Фота Я. Чэрнякевіч

## СТУЖКІ ПРАЎДЫ — ЧАСТКА ДРУГАЯ

**(Працяг са стар. 4)**

мі прыкра... Але ваш сын выйдзе. Рана-позна дойдуць памаленьку, хто вінаваты. Хтосьці пісне, хтось крыху ляпне, усё выйдзе наверх... Гэта ўжо справа толькі міліцыі...

— Вы лепей не лазьце і не боўтайце, бо гэтым нічога добрага не наробіце. Я вам добрую параду дам: меней гаварыць.

— Ніхто не хоча пхацца не ў свае справы. Такая справа — ну, ведаеце, якая яна справа...

Магнітафонная стужка бясстрасная. Цяпер можам яе слухаць толькі як рэпартаж з жыцця аб тым, якія сапраўды ёсць людзі — ведаюць многа, баяцца, моўкнуць, пагражаюць, а нават перашкаджаюць у рабоце адпаведным службам. Для свайго спакою? Не для спакою ж сумлення!

— Не хачу абвінавачваць таго чалавека, які сапраўды з'яўляецца забойцам. Гэта напэўна сталася выпадкова, — кажа маці Геніка, Ганна К. — Нічым ужо не паможам ні мёртваму, ні яго сям'і. Як гэта цяжка перажыць, ведаю добра сама, бо і я падобным чынам страціла старэйшага сына. Але як можа існаваць увогуле такая несправядлівасць, якая забівае і гэтага майго сына! Як можа так быць, што недарэчны, бяздумны, сляпы і бяздушны лёс можа так спакойна крыжаваць і ламаць людское жыццё?

Скажам, не толькі лёс бяздушны і бяздумны.

**Міра Лукша**

## З ПАЕЗДКІ Ў БССР

## ЖЫЦЦЁ НАД ВОЗЕРАМ

Спыніліся мы ля мураванага будынка, на фоне якога стаяў на цокале з чорнага граніту бронзавы салдат з аўтаматам на грудзях. Не цяжка было здагадацца, што гэта помнік герою Савецкага Саюза, Анатолю Яфрэмавічу Углоўскаму.

Мае сябры-спадарожнікі з рэдакцыі газеты „Віцебскі рабочы“ пайшлі шукаць гаспадароў гэтага саўгаса і сельсавета.

Чакаючы, я з любатою знаёміўся з новымі для мяне абставінамі. Архітэктурнае афармленне жылога будаўніцтва ў пасёлку, каляровая размалёўка паасобных домікаў, дбайна загаспадараныя агародчыкі, чысціня і парадак найлепш сведчылі аб задаволенасці тутэйшага жыхарства сваім штодзённым лёсам, гаварылі аб тым, што яны з аптымізмам глядзяць у будучыню.

Вярнуліся за мною мае сябры. Нас прынялі: сакратар камітэта саўгаснай партыйнай арганізацыі, галоўны рахункавод саўгаса імя А. Я. Углоўскага — Анатолій Яфімавіч Маясеенка і старшыня сельскага Савета дэпутатаў працоўных у пасёлку Вымна — Уладзімір Іванавіч Дубко, параўнальна яшчэ малады чалавек, з навуковым званнем кандыдата навук.

Гутарка спачатку ў нас неяк не ладзілася. Вера Іванаўна прабавала ратаваць становішча, просячы гаспадароў, каб яны не бянтэжыліся маёй замежнасцю. Я ўключыў магнітафон, каб гутарку не спыняць для вядзення запісак.

Такім чынам я даведаўся, што саўгас імя А. Я. Углоўскага вядзе сваю гісторыю ад 1920 года. Раней, у царскі час, тут, над возерам Вымна, знаходзіўся памешчыцкі маёнтак. Даўнейшым маёнткам першапачаткова пацікавілася армія. Маёнткам над возерам Вымна заапекавалася Калінінская ваенная акруга і наладзіла тут вайсковую гаспадарку. Так было да 1923 года. Калі вайна закончылася і становішча ў новай краіне Саветаў стабілізіравалася, ваенныя ў 1923 годзе перадалі сваю гаспадарку зямельнай управе. І так фактычна распачаў сваё існаванне саўгас Вымна.

— У 1953 годзе, для прыкладу, — паінфармаваў глаўбух А. Я. Маясеенка, — мелі мы ў сваім распараджэнні 1370 гектараў зямлі, з чаго ледзь 420 га ворыва, 6 трактараў і 4 аўтамашыны.

— У гадах 1956—57, — уключыўся ў гутарку старшыня сельсавета, — згодна з кірункам тадышняй агульнадзяржаўнай аграрнай палітыкі і ў нас наступіла павелічэнне нашага саўгаса. Да яго далучылі 6 суседніх калгасаў, якія ператварыліся ў вытворчыя звенні нашай сацыялістычнай дзяржаўнай вясковай гаспадаркі. На яе тэрыторыі знаходзіцца зараз 17 вёсак.

Сакратар партарганізацыі паглядзеў у нейкія дакументы і з бухалтарскай дакладнасцю працытаваў, што зараз за іх саўгасам замацавана звыш 10 тысяч гектараў зямлі і вады, што ворыва ў іх складае ледзь 460 гектараў, а зямельныя ўгоддзі займаюць плошчу ў 6,5 тысяч га.

— Займаемся мы яшчэ і садаводствам, — дапоўніў старшыня сельсавета. — У нас сямідзесяцігектаровы саўгасны сад.

Мне адразу запахла квітнеючымі яблынямі ў маі месяцы і спелымі яблыкамі ў верасні і кастрычніку. Адначасова ўявіў я сабе дарогу цераз гэты сад. Найкарацейшая з іх мела б 7 кіламетраў даўжыні.

А трэба ж яшчэ ведаць, што гэтая зямля асабліва шмат нацярпелася ў час апошняй вайны. Акупанты, як і ўсюды, не лічыліся ні з жыццём, ні з патрэбамі мясцовага насельніцтва. Яны абдзіралі тутэйшых сялян з усяго, што магло ўзбагаціць „тысячагадовую“ імперыю і яе армію. А калі гэтая імперыя і

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Удзельніцы дэкламатарскага конкурсу беларускай прозы і паэзіі з гайнаўскай школы № 3 Крыся Яцко, Люся Філюновіч і Аня Гадомская на раённых элімінацыях у Гайнаўцы. Рыхтавала іх да конкурсу настаўніца беларускай мовы Вольга Сянкевіч. Фота Я. Чэрнякевіч.

Наш настаўнік даў тэму для сачынення — „Мае самыя дарагія ўспаміны“.

Зусім нядаўна мы, трыццаць шэсць юнакоў, вытрымалі сапраўдны бой — уступныя экзамены ў настаўніцкую семінарыю. Бой быў цяжкі, на кожнае месца чатыры кандыдаты. Цяпер гордыя сваёй перамогай, мы павінны пацвердзіць зноў, што настаўнікі не памыліліся, прыняўшы менавіта нас, што мы можам складна і прыгожа выказваць свае думкі, самыя задушэўныя.

Трыццаць шэсць хлопцаў, шэсць розных беларускіх куточкаў, розных вёсак, краявідаў! Ды такая тэма! Тут не можа быць, каб хто і хацеў, ніякага падабенства.

Так яно і сталася. Напісалі ўсе па-рознаму. Хто — пра бацькоў, хто — пра першае знаёмства з горадам, пра любімую кнігу, пра шчырых сяброў. Адзін наш хлопец, Міхась, родам з Навагрудчыны, напісаў пра музыку, якую слухаў у бабулінай хаце.

Расказаў ён пра бабуліну сядзібу, цудоўны сад, бэзавыя альтанкі, салаўіныя спевы, сардэчнасць старэнькай бабулі. А больш за ўсё і прыгажэй за ўсё пра тое, як стройна, дзівосна іграла яна на фісгармоніі розныя песні і розныя музычныя творы выдатных кампазітараў. Усе дзявочыя гады была тая бабуля пакаёўкай у багатай пані і вучылася іграць тады, калі вучылі паненку. Паненка не мела ніякай здольнасці да музыкі, а ў пакаёўкі такая здольнасць была ды яшчэ — выдатны музычны слых. Настаўнік перадаў ёй за кароткі час тое, чаго ніяк не мог перадаць паненцы...

Калі пакаёўка выходзіла замуж, старая пані, расчуліўшыся з такой падзеі, запыталася:

— Які б ты хацела атрымаць ад мяне падарунак на вяселле?

Яна думала, што маладая паненка папросіць грошай або карову, але пачула нечаканае:

— Панечка! Фісгармонію!

Уладзімір Дубоўка




З АПАВЯДАННЯЎ — УСПАМІНАЎ

Дужа здзівілася пані: якраз тады пачалі з'яўляцца піяніна і раялі, а фісгармоніі выходзілі з моды. Так і паехала фісгармонія ў сялянскую хату. Так і дажыла да бабуліных гадоў. Навучылася, праўда, іграць на ёй і Міхасёва матка, але бабуля трымала інструмент пакуль што ў сябе. Дзіва што: дочкі замуж павылятаі, дык хоць музыка ў хаце засталася, дапаможа смутак калі развеяць... Вось і іграла бабуля сваім унучкам і ўнукам, калі тыя прыходзілі ў госці, жывучы ў блізкіх вёсках.

Напісаў Міхась сваё сачыненне так складна, так прыгожа, што настаўнік сам прачытаў яго перад усім класам. Гэта была большая ўзнагарода, чымсьці пастаўленая чырвоным атрамантам пяцёрка.

У Міхася на твары была сціплая радасць. Здавалася, што ён сваімі думкамі лунае там, на Навагрудчыне, у бэзавым садзе, слухае пявучыя акорды. Ды і многія з нас у сваім уяўленні бачылі так добра і выразна намаляваны Міхасём утульны куточак!

І вось на перапынку падаў свой голас наш аднакласнік Цыпрук, якому паставілі тройку.

— Гэй ты, бабуліна фісгармонія! А я паставіў бы табе тройку, а не пяцёрку. Падумаеш! Музыкай бабуля займаецца! Мая бабуля дапамагае бацьку кілбасы рабіць на продаж, машыну круціць. Гэта больш каштоўная музыка!...

Міхась ад такой нечаканкі зніякавеў. У яго задрыжалі вусны.

Здавалася, што з ягоных вачэй зараз пырснуць слёзы. Мы таксама збянтэжыліся. Стваралася ўражанне, што нібыта нехта заскочыў у садок, паламаў, патаптаў бэзавыя кусты, кветкі, распудзіў салаўёў, а пасля кіем ударыў па струнах, і яны пачалі не спяваць, а рыдаць, надрыўна галасіць.

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Валянціна Коўтун

### АРЭЛІ

Мы да неба паляцелі,
Нас падкінулі арэлі.
Кожны смелы касманаўт
На арэлях пачынаў,
На вяровачным кані
Дасягаць вышыні.
А над намі —
Толькі зоркі.
Кожны кемлівы
І лоўкі,
Кожны дужы,
Кожны ўмелы, —
Гэй, сядайце
На арэлі!

### ЧАЙКА

— Чайка, чайка, што на крылах
Ты над возерам насіла?
— Мары хлопчыкаў аб моры,
Светлых ветразях і зорах.
— Што пад крыламі ў цябе?
— Хвалі срэбныя ў гульбе,
Залатой луской пакрыты.
Вёслы, бераг і ракіты.
— Над табою, чайка, што там?
— Ходзяць воблакаў чароды,
Ды плывуць з усіх бакоў
Песні нашых рыбакоў!

### ЦВІЧОК

Хоць маленькі сам цвічок, —
Падстаўляе свой бачок:
— Ты па мне не бойся біць,
Мне ніколі не баліць.
Вастрадзюбы я, жалезны,
Як у масла, у дрэва лезу.
Малаток бяры у рукі
І, як тата, моцна стукай.
Хочаш — заўтра,
Хочаш — сёння
У сцяну мяне загоніш.
Цяжка толькі навічку,
Малому гультайчыку.
Раз ударыць па цвічку,
А другі —
па пальчыку!

### ЖЫРАФА

Падаравалі
Жырафе
караді!
Як жырафе тут быць,
Дзе каралі насіць?
Шыя доўгая такая,
Дзе павесіць іх —
не знае.
Раіцца з суседзямі.
Кажуць:
— Пасярэдзіне!
Каралі не ўтрымаліся,
Уніз паапускаліся.

Юрась Свірка

### СНЯЖОК

Ён першы раз убачыў снег,
Не знае, што такое.
Ад радасці пабег, пабег,
Гуляе сам з сабою.
Сабачка то ўпадзе на бок,
То пад кусты залезе.
І сам, як беленькі клубок,
Качаецца па снезе.
— Сняжок, сюды! Пушок, сюды!
Сняжок нібы не чуе.
Бяжыць малы абы-куды,
Сляды свае нітуе.
І раптам ён на рукі — скок!
Ледзь мне не скінуў шапку.
— Пагрэйся, беленькі Сняжок,
Пагрэй хоць крышку лапкі.
Калюча шчыплецца мароз.
Сняжка пад курткай грэю,
Там толькі вочы, толькі нос,
Як гузічкі, чарнеюць.

З суседскага агародчыка

### ТУРБОТНЫЯ СНЫ

Пасля працоўнага дня горад спаў бесклапотным сном дзіцяці. І толькі Пыжыкаў варочаўся з боку на бок і не мог заснуць. Сумленне мучыла яго.

„Колькі разоў я гаварыў сабе: Пятрусь, не бяры, у цябе ж і так усё ёсць, — караў сябе Пыжыкаў, захутваючыся з галавой у коўдру. — І ўсё-такі зноў узяў. Добра, было б футра як футра, а то так сабе — абы-што, адна назва. У любым атэлье такога дабра навалам. Ведаў жа, што не трэба браць, а ўзяў. А калі часам бачыў хто, што тады?!“ Ад адной гэтай думкі па спіне Пыжыкава папаўзлі мурашкі.

„А ёсць жа людзі сумленныя, высакародныя. Не крадуць, хабар не бяруць — і жывуць сабе не горш за другіх. Вось, для прыкладу, Сцяпан Крапіўкін. І дом у яго дай бог кожнаму, і „Волга“ з гаражом на дварэ, і дрыжыкі яго не бяруць: Храпе сабе цэлую ноч спакойна!“

А ў гэты час на другім канцы горада ў новенькай хаце на драўляным ложку новенькага спальнага гарнітура пакутаваў ад бяссонніцы Крапіўкін. Сума грошай, атрыманая ім сёння ад спісання кантэйнера з бытцам бы пабітымі чайнымі сервізамі і сувенірамі, пякла Крапіўкіну душу.

„— Ну, колькі разоў я гаварыў: Сцёпка, спыніся, пастаў кропку“. — у думках дакараў сябе Крапіўкін. Ён разлютавана пастукаў кашчавым указальным пальцам па лысай галаве. „Ты ж усё выдатна разумееш, Сцёпка, а робіш наадварот. Можна ж сумленна, без хлусні і махінацый. Жывуць жа людзі на адну зарплату, ды яшчэ як жывуць! Узяць хоць бы Петруся Пыжыкава...“

**У. Шкаброў**


Без слоў.





— Злякаўся.
— Не. Голас у яго прыкры.

### З ТОРБАМІ ПА СВЕЦЕ

— Бачыш, вось пайшла Кацярына на аўтобус з клункамі? Выгадавала столькі дзяцей, а цяпер ездзіць па белым свеце з торбамі...

— Як гэта?

— Да сына-студэнта ў Люблін, да дачкі-выпускніцы ў Беласток, да сына-курсанта ў Варшаву... І кожнаму торбу вязі...

### ПРЫКМЕТА ЧАСУ

Сусед грукае ў дзверы:

— Прывітанне, Роберт, мы купілі новую машыну. Не пазычыш крыху хлеба?

### ГЭТА ДОБРА

— Якія грошы, такі і тавар.

— Гэта добра! Я табе ў два разы танней заплачу.

### НУ І НУ!

Турыст спытаў у задрыпанкі, якая даіла карову:

— Колькі малака ў дзень вы атрымліваеце ад вашай каровы?

— Дзесяць літраў.

— І ўсё гэта малако ідзе на продаж?

— Не. Пяць літраў я пакідаю сабе, а сем прадаю турыстам.



Пераможцы...



Ён чым ніжэй апускаўся, тым вышэй сябе падымаў.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Сенатар меў неасцярожнасць пакрыўдзіць свайго памочніка, які пісаў для яго тэксты прамоваў і ствараў босу славу дасканалага аратара. Неўзабаве пасля гэтага сенатару зноў давялося выступаць. Усё ішло цудоўна, пакуль, перагарнуўшы чарговы ліст, ён не выявіў, што далей папера зусім чыстая за выключэннем кароткай запіскі:

— Ну вось, а цяпер, стары, выкручвайся сам“.

* * *

Шатландзец падыйшоў да касы стадыёна і працягнуў пяцьдзесят пенсаў. Касір заўважыў:

— Цана білета — адзін фунт.

— Ды я буду глядзець толькі на шатландскую каманду!

### ПРЫПЕЎКІ

Заліхвацка піў Пахом
За сталом і за вуглом.
Больш Пахом ужо не п'е —
На лякарствах ён жыве.

Не ў дазволенай гадзіне
Далі пляшку ў магазіне.
Прадавец Сцяпан сумуе —
Бо на штраф цяпер працуе.

Выцвярэзнік родная хата.
Стаў даўно ўжо для Ігната:
Завяла туды зладзейка
З размалёванай наклейкай.

Пад гармонік, як сумелі,
Мы прыпеўкі вам прапелі.
І, як кажуць, вы з вусамі,
Вывад з іх рабіце самі.

**М. Рыхлоў**

З „Весніка Задрыпоніі“

### ПОСПЕХ НАВАТАРА

Чатыры дні на сэканомленых матэрыялах адпрацаваў у гэтым годзе прадаўшчык магазіна „Тканіны“ Рукадзельнюк. Гэта на два дні больш, чым яго таварыш па працы.

### СПЕЦЫЯЛІЗАЦЫЯ

Арыгінальную беговую дарожку пабудавалі на Дырдансім стадыёне. Тут можна праводзіць спаборніцтвы толькі па бегу з перашкодамі.



### НЕ ГЛУХАЯ

Жанчына, галасіўшы па сваім нябожчыку мужу, прыгаворвала:

— Хай бы ты і гарэлку піў, і ў гулькі кідаўся — ніколі больш бы не лаяла, абы толькі быў жывы.

Іншы мужчына, прысутны на пахаванні, ціхенька прашаптаў сваёй жонцы:

— Чуеш, што людзі кажуць?

— Чую, не глухая. Дык ты ж яшчэ жывы.

### АПЕРАЦЫЯ

Хірург гаворыць пацыенту, які прачнуўся пасля наркозу:

— Аперацыя прайшла паспяхова!

— Дзякую, доктар! Але я заходзіў у аперацыйны толькі для таго, каб направіць водаправодны кран...


— Каб я ведаў, што абед не гатовы, перакусіў бы ў кавярні!

## Курёзы

### У САЛАУХІНА

Валодзя Карпека расказаў мне забаўны эпізод. Яму пазванілі рантам з вялікага Палаца культуры і папрасілі іх выручыць. Там павінен быў адбыцца вечар звышпапулярнага паэта, але паэт прыйсці не змог — захварэў ці выехаў недзе за граніцу. Але народ ужо сабраўся, і вось з Палаца культуры папрасілі Валодзю Карпеку выручыць іх і выступіць замест звышпапулярнага паэта.

Не ведаю, чаму ён згадзіўся на гэта.

Зразумела, што публіка, якая прыйшла на свайго любімца, сустрэла Карпеку шыканнем і свістам. Гул нездаволенасці. Карпека тым не менш адкрыў зборнік вершаў і пачаў чытаць. Гул асуджэння нарастаў, вось-вось яго прагоняць са сцэны. Выкрык:

— Як вы смелі сваім паэтычным лепетам замяніць паэзію вялікага паэта!

— А я вам і чытаю вершы вялікага паэта. У мяне ў руках зборнік яго вершаў. Свайго я пакуль яшчэ не чытаў...

Публіка заціхла і потым ужо слухала самога Карпеку.




Браць на сябе добра, калі ёсць на каго перакласці.